Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# Думка Беларуса

АДНАДНЁЎКА

Вільня, Серада 22-га ліпня 1925 г.

## Палітычная лекцыя.

У той мамэнт, як наша аднаднёўка выйдзе ў сьвет, праект уставу аб парцэляцыі і асадніцтве, навакол якога разыгралася ў Сойме праўдзівая бура, стаўся ўжо прыняты, як абзываючы закон.

Вострасьць барацьбы, якую на соймавым груньце вялі з прычыны гэтага ўставу абодва беларускія клюбы, клюб украінскі, камуністычны і Н. П. Х, тлумачыцца—з аднаго боку—тым, што законапраект б'еці перад усім па нацыянальных інтарэсах беларускага і ўкраінскага насяленьня Польшчы, падмяняючы зямельную рэформу—польскай калянізацыяй беларускіх і ўкраінскіх зямель, з другога боку—тым, што ён ратуе стан сярэдніх польскіх зямляўласьнікаў і, на падмогу польскай шляхце, стварае тысячы польскіх сялянскіх гаспадарак, „кулацкага“ тыпу, так сама сацыяльна варожых да многаміліённых масаў беларускага і ўкраінскага працоўнага сялянства, як варожымі да яго заўсёды зьяўляліся і дасюлешнія валадары дворных абшараў. І ў соймавай барацьбе зусім натуральна пайшлі побач прадстаўнікі нацыянальных і сацыяльных інтарэсаў працоўнага сялянства, хаця і падзеленыя на даволі рознародныя па сваей ідэалёгіі групы.

Ня маючы магчымасьці абараніць свае пазіцыі проці аб'яднанага фронту польскай буржуазіі і польскіх сацыялістаў, праціўнікі калянізацыйнае палітыкі польскае дзяржавы хапіліся за апошні спосаб парляманцкае барацьбы: спосаб *„абструкцыі“*, ці перашкаджаньня Сойму правадзіць галасаваньне пасобных артыкулаў уставу і ўсяго яго ў цэлым. І толькі тады, калі ў Сойме пачаліся непрактыкаваныя дагэтуль у Польшчы скандалы, толькі тады польская „дэмакратыя“ распачала перагаворы з непрымірымай апазіцыяй аб спыненьні абструкцыі за некаторыя ўступкі дамаганьням апазіцыянераў.

Але перагаворы не далі ніякіх вынікаў, бо-ж і *не маглі іх даць.* Справа йдзе не аб нейкія дробныя ўступкі, але аб самы *прынцып дзяржаўнае польскае калянізацыі на беларускай і ўкраінскай зямлі*, якую беларусы і ўкраінцы лічаць за сваю неад'емную ўласнасьць. Дык з запрошаных на перагаворы беларускіх прадстаўнікоў клюб Работніцка-Сялянскае Грамады зусім адмовіўся ад гутарак з прадстаўнікамі польскае большасьці Сойму, і ў гутарках з палякамі—ці не апошні раз?—згадзіліся прыняць учасьце толькі два клюбы: Беларускі Пасольскі Клюб і Украінскі Пасольскі Клюб.

Ведама, на паважныя, прынцыповыя ўступкі польская старана не пайшла, бо-ж зрачыся калянізаваньня беларускіх і ўкраінскіх зямель азначала-бы для Польшчы адрачэньне ад *усяе яе дзяржаўнае сыстэмы*, абапертай на прызнаньні за *адзінага і галоўнага* гаспадара Польшчы і падлягаючых ей няпольскіх краін—*польскага народу.* За гэтым мусіла-б пайсьці прызнаньне не на паперы, але і на дзеле, ўсіх правоў нацыянальных меншасьцяў, прызнаньне права на самастойнасьць няпольскіх тэрыторыяльных народаў. Але на гэта ніхто з палякоў, не выключаючы пэпэсаў і вызваленцаў, шчыра ніколі ня йшоў і цяпер не пайшоў.

Дый навет пры згодзе на далёка сягаючыя адступленьні ад сыстэмы калянізацыі трудна было-б даць веры ў магчымасьць зьдзейсьненьня іх. „Языковыя законы“—найлепшы доказ гэтага. І калі „дэмакратычны“, афіцыяльна падтрымліваны ўсімі польскімі сацыялістамі і дэмакратамі урад ген. Сікорскага ня споўніў сваіх абяцанак беларусам і ўкраінцам—навет у найменшай меры, дык трудна нечага ждаць ад ураду, у якім пачэснае месца займае павадыр польскіх нацыяналістаў, п. Станіслаў Грабскі....

Найлепшы доказ таго, што *кампрамісы з гаспадарамі палажэньня ў дробных справах не зьмяняюць палажэньня нацыянальных меншасьцяў*, дае апошняя польска-жыдоўская ўгода. Прадстаўнікі жыдоўскае буржуазіі за рад дробных уступак на яе карысьць пайшлі на міравую з пануючай нацыяй. І што ж яны пачулі ад найбольш уплывовага сярод нацыяналістычна настроенага польскага грамадзянства органу? А вось што.

Лейб-орган польскае эндэцыі, „Gazeta Warszawska“, у перадавой стацьці ў № 190 піша даслоўна гэтак аб польска-жыдоўскай угодзе:

„Было-б самаашуканствам, калі-б нехта думаў, што гэткае заблутанае (жыдоўскае) пытаньне можна разьвязаць такім ці іншым загадам ураду, або пастановай парляманту. І—на наш пагляд—*ня сталася нічога такога, што прымушала-бы польскую апінію да прынцыповага перагляду яе адносінаў да жыдоўскага пытаньня*“....

Вось, зусім справядліва сказана: пакуль „польская апінія“ не дасьпее да „прынцыповага перагляду“ сваіх адносінаў да нацыянальных меншасьцяў і ролі польскага элемэнту ў дзяржаўным жыцьці Польскае рэспублікі,—як можна лятуець аб нейкай перамене польскае палітыкі і нейкіх паважных уступках „інародцам“ з польскага боку?

Здарэньні ў Сойме пры праводжаньні ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве—гэта *добрая лекцыя* для ўсіх нацыянальных меншасьцяў Польшчы, а для беларусаў — перад усім....

# ЗА ЗЯМЛЮ.

### Справа закону аб парцэляцыі і асадніцтве ў Сойме.

## Прамова дэп. Тарашкевіча,

**сказаная на паседжаньні Сойму пры трэцім чытаньні ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве і датычачая 1 арт. гэтага ўставу.**

Ад імя работніцка-сялянскага блёку, зложанага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Незалежнай Сялянскай Партыі і Камуністычнай Пасольскай Фракцыі рашуча пратэстую проціў гэтага ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве, крывадушна названай уставам аб выкананьні зямельнае рэформы.

Ухвалены Соймам устаў аб парцэляцыі зьяўляецца **замахам злучанай буржуазіі і абшарніцтва на жыцьцёвыя інтарэсы працуючага люду.**

Мэта яе — гэта **ўтрыманьне касты абшарнікаў**, якая ў працягу сталецьцяў сыцела потам і крывёю працоўнага люду, **стварэньне яшчэ жмені кулакоў і здабыцьцё гэткім чынам для буржуазіі і абшарніцтва саюзьнікаў у барацьбе з вызвольным народным рухам.**

Мэтаю ўставу зьяўляецца **пазбаўленьне зямлі адзіных яе праўных уласьнікаў—мільёнаў беззямельных і малазямельных сялян,** выкіданьне з бацькаўскай маемасьці беларускіх і ўкраінскіх сялян і адначасна ашукваньне і баламучаньне народных масаў крывадушнымі абяцанкамі. Урэшце, мэтаю ўставу зьяўляецца **замацаваньне буржуазнага ўраду ў Польшчы,** узмацненьне і так ужо страшнага ўціску і вызыску сялян і работнікаў.

Устаў гэты, служачы інтарэсам буржуазіі і абшарніцтва, праводзіцца пры самым дзеяльным учасьці панскіх прыслужнікаў з Пяста і П.П.С., якія даўно ўжо і цалком мэтаю сваею паставілі: бараніць і ўзмоцніць панаваньне буржуазіі. Але таксама і „Вызваленьне“, якое напаказ карыстаецца радыкальнымі фразамі, якое нейкі час у Сойме рабіла від апазіцыі, — ідзе ўсё выразней на панскай аброці, а ўгодай з Пястам выразна перайшло да варожага для працоўнага народу абозу.

Насупраць буржуазна - пястоўска - пэпэсаўскага блёку, узмоцненага цяпер „Вызваленьнем“, павінен быць пастаўлены магутны сялянска-работніцкі блёк, у радох якога знойдуцца мільёны працоўнага люду ў вёсцы і ў месьце, змагаючыяся пад клічам: **зямля сялянам, фабрыкі работнікам, нацыянальная свабода—для паняволеных народаў!..**

„Мы, прадстаўнікі гэтага сялянска-работніцкага блёку, якi ўжо творыцца ад самага пачатку, пратэставалі і пратэстуем проціў гэтага ўставу і дамагаемся **адабраньня зямлі бяз выкупу і падзелу яе паміж сялян самымі-ж сялянамі.**

Устаў гэты ня толькі ня вырашае зямельнага пытаньня, ня толькі не зьяўляецца, як гэта цьвердзіць буржуазія і яе прыслугачы, пачаткам мірнага разьвіцьця зямельных адносінаў у Польшчы, але наадварот, **зьяўляецца пачаткам вялікай і адкрытай барацьбы.**

Вялікая барацьба за зямлю ўваходзіць у новы пэрыяд. **Сойм сялянам зямлі ня даў і ня дасьць.** Зямлю сяляне мусяць узяць і возьмуць самі. **(Вокляскі).**

Уся абшарніцкая і касьцельная зямля разам з будынкамі і інвэнтаром мусіць быць сканфіскавана бяз ніякае заплаты і бясплатна-ж падзелена сялянскімі камітэтамі паміж вясковай малазямельнай і беззямельнай люднасьцяй. **Тварыць сялянскія камітэты!** — вось, загад гэтага мамэнту. Тварыць сялянскія камітэты дзеля масавай барацьбы за зямлю для сялян бяз выкупу, дзеля барацьбы з разьдзіраньнем зямлі невялікаю жменяю вясковых кулакоў, дзеля барацьбы з падаткавым уціскам і гвалтамі паліцыі, дзеля арганізаваньня масаў пад дэвізам **барацьба за сялянска-работніцкі ўрад.**

Прыманы Соймам устаў аб парцэляцыі і асадніцтве вядзе да ўзмацаваньня барацьбы на беларускіх і ўкраінскіх землях, паняволеных польскімі панамі і буржуазіяй.

Польскі ўрад і польская буржуазія пры чынным падтрыманьні сялянскіх і работніцкіх угадоўцаў праводзіць на ўкраінскіх і беларускіх землях экстэрмінацыйную палітыку па прыкладу аслаўленае прускае калянізацыйнае камісіі, — палітыку, якая мае мэтай выкінуць з зямлі беларускіх і ўкраінскіх сялян і спольшчыць Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну.

Ня гледзячы на гэтую палітыку, мэтаю якой зьяўляецца разьбіцьцё працоўнага люду, разбуджэньне у ім нацыянальнай ненавісьці, **шырокія масы польскіх сялян зразумеюць, што толькі супольная барацьба разам з украінскімі і беларускімі сялянамі і брацкі саюз з работніцкай клясай можа даць пабеду над эксплёататарамі (Воклясkі).**

Зямля ў Заходняй Беларусі і ў Заходняй Украіне прадстаўляе адвечную ўласнасьць мясцовых сялян, якую сілаю забрала ў іх шляхта. Зямлю гэтую беларускія і ўкраінскія працоўныя масы здабудуць у саюзе з польскімі сялянамі і работнікамі і патрапяць абараніць яе ад усякіх замахаў абшарнікаў і буржуазіі.

На беларускіх і ўкраінскіх землях для кіраўніцтва над падзелам сканфіскованай зямлі будуць створаны Галоўныя Сялянскія Камітэты Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, выбраныя зьездам дэлегатаў Павятовых Сялянскіх Камітэтаў.

Ад імя мільёнаў сялян і работнікаў, якія толькі ў моцным братнім саюзе бачаць пэўнасьць пабеды, урачыста пратэстуем проціў выкоўванага ў Сойме новага замаху на правы працоўнага люду.

Сцьвярджаем, што замах Сойму на правы працоўнага народу толькі ўзмоцніць барацьбу сялянскіх масаў за сваю бацькаўскую спадчыну за сваі найсьвяцейшыя правы.

Грубая палітыка буржуазіі, крывадушнасьць угадоўцаў з П. П. С. і „Вызваленьня“ адчыняе вочы ўсё

шырэйшым масам працоўнага люду, паказвае ім, што **да вызваленьня вядзе тальki дарога—неўмалімае барацьбы**. (Бурлівыя воплескі на лавах работніцка-сялянскага блёку).

# Дэклярацыя Беларускага Пасольскага Клюбу,

прачытаная дэп. Рагуляй у Сойме 17 ліпня 1925 г. пры трэцім чытаньні Ўставу аб „Парцэляцыі і асадніцтве“.

Высокая Палата!

Ад імя Беларускага Клюбу маю чэсьць заявіць наступнае.

Устаў аб парцэляцыі і асадніцтве, які толькі ў апошнія дні перад прыняцьцем у Сойме быў зусім няслушна ахрышчаны ўставам аб зямельнай рэформе, ня мае на мэце паляпшэньня эканамічнага і сацыяльнага быту шырокіх масаў беззямельнага і малазямельнага працоўнага сялянства. Гэта перад усім **палітычны ўстаў**, які, ня ўкрываючыся, імкнецца заграбіць беларускую зямлю і аддаць у рукі прыблуд з Польшчы—дзеля поўнага зруйнаваньня беларускага сялянства, у роўнай меры эканамічнага і культурнага, а такжа дзеля сацыяльнага паняволеньня яго.

Доказам гэтага зьяўляюцца артыкулы 44, 50, 51, 52 і іншыя, дзе выразна гаворыцца аб асадніцтве на беларускіх землях, — а такжа і самая працэдура і спосабы праводжаньня парцэляцыі і асадніцтва, прадугледжаныя ў уставе і надзяляючыя Урад, ці—то міністра зямельных рэформаў, правам паступаць паводле іх уласнае волі. Да Ураду, які падае падобныя праекты законаў, мы, ведама, даверыя мець ня можам.

У часе дыскусіі аб уставе аб парцэляцыі і асадніцтве, якая адбывалася ў зямельнай камісіі, усе высілкі беларускіх і ўкраінскіх дэпутатаў у пастаці паправах і рэзалюцыяў, меўшых на мэце ўхіленьне ці—то зьмякчэньне артыкулаў, што ганебным спосабам абіраюць беларускі народ з зямлі,—ніколі нічога не дасягалі, бо ўсе польскія партыі, як правыя, так і левыя, вялізарнаю большасьцяй зусім сьвядома пакідалі іх бяз ніякае ўвагі.

Аднак-жа, калі ўстаў пайшоў на пленум Сойму і калі гэтыя польскія партыі з яўным цынізмам зацьвярджалі скіраваныя проці нас ня толькі самыя артыкулы ўставу, але і розныя папраўкі, адкідаючы ўсе папраўкі беларускіх паслоў; калі беларускія дэпутаты з абодвух клюбаў запратэставалі проці гэтага, хапіўшыся за крайні спосаб вострае абструкцыі, не баючыся староннага тасаваньня наказу прэзыдыумам Сойму і ня ўступаючы перад фізычнай сілай некаторых польскіх паслоў з правіцы, што кулакамі зьневажалі беларускіх паслоў, выражаўшых сказаным спосабам сваё слушнае абурэньне перад сваім народам і перад усенькім сьветам,—тады прадстаўнікі прэзыдыуму Сойму, Ураду і цэнтравых ды лявіцовых польскіх клюбаў зьвярнуліся да беларускіх паслоў дзеля завязаньня перагавораў у справе паразуменьня аб уставе і нібы-то ў справе прыняцьця пад увагу дамаганьняў дэпутатаў Беларускага Клюбу ў справе зямлі. Але што-ж аказалася? Аказалася, што гэныя прадстаўнікі сулілі нам розныя абяцанкі на словах аб зьмене некаторых няістотных пунктаў уставу нібы-то на нашу карысьць, але зусім **не зракаючыся далейшага сяленьня чужакоў на нашых землях!** Дык перагаворы былі сарваны.

Дзеля вышэйсказанага, мы, як прадстаўнікі больш чым двухміліённага беларускага насяленьня Польшчы, гэтым заяўляем, што **ніколі не пагодзімся з ніякім асадніцтвам**; бяссільныя ў Сойме ў барацьбе за сьвятое права нашага народу, мы **перанясем гэту барацьбу па-за Сойм**, вядучы яе аж да перамогі. Беларускі народ, пастаўлены польскай асадніцкай палітыкай перад выбарам: быць, ці ня быць?,—бяссумліўна падтрымае нас у гэтай барацьбе. Беларускі народ зямлі сваей, ня гледзячы на тое, што нехта хоць калі яе сабе прысвойваў,—зямлі, якую сам сваім мазалём выробляў, паліваючы крывёй і потам сваім, **не аддась нікому і сам возьме яе сваімі рукамі бяз ніякіх выкупаў і адшкадаваньняў!**

З гэтае высокае трыбуны магу заявіць, што ў 1925 годзе мы ня пойдзем за прыкладам нашае шляхты з 1569 году! Мы ня станем перад вамі на калені і ня будзем **прасіць** вас, як стаяла на каленях перад каралём Жыгімонтам Аўгустам нашая шляхта, просячы яго, каб не аддаваў Польшчы беларускіх зямель. Мы—ня шляхта, мы — дзеці працы, мужыцкія дзеці, дзеці паміраючага з голаду—дзякуючы польскай палітыцы—беларускага сялянства; мы ведаем, што **ня трэба прасіць, а трэба браць,—і народ наш сваю зямлю возьме**, а мы, яго прадстаўнікі, гатовы на ахвярны аўтар злажыць сваё жыцьцё ў абароне права беларускага сялянства на зямлю яго дзядоў.

Мы падалі рад паправак да ўставу і робім апошнія стараньні, каб неяк палепшыць гэты ўстаў. Калі нашы папраўкі ня будуць прыняты, дык будзем прымушаны ізноў адказаць на гэта так, як на той мамэнт будзем лічыць адпаведным. Калі нашы папраўкі ня будуць прыняты, дык, ведама, будзем галасаваць проці ўставу. **На тое, каб завязаць шнур на шыю беларускага народу, мы сваей пячаткі ніколі не паставім**, нічога не баючыся!

# Становішча украінцаў.

Украінскі дэпутат **Хруцкі** пры трэцім чытаньні ўставу аб парцэляцыі і асадніцтве (17 ліпня) заявіў ад імя 7-міліённага ўкраінскага насяленьня, што зямля зьяўляецца галоўнай падставай быту гэтага насяленьня, і ўкраінскі народ жджэ зямельнае рэформы. На Вялікай Украіне (ў СССР) гэтая рэформа ўжо праведзена бяз ніякіх выкупаў. Толькі на заходнім баку рыжскае мяжы, якая разрэзала жывое цела Украіны, зямля асталася ў руках паноў, ды зьявіўся йшчэ новы гаспадар — польскі асаднік.

„Мы думалі, — казаў прамоўца, — што пад уплывам нашае абструкцыі вы зыйдзеце з дарогі. Але двохдзённыя перагаворы, якія былі ведзены з учасьцем прадстаўнікоў лявіцы і цэнтру і міністра зямельных рэформ, даказалі, што вы не згаджаеся навет на нашыя найменшыя дамаганьні. Мы перакананы, што вы хочаце толькі атрымаць нашу згоду на сьмяротны ўдар, скіраваны ў наш народ. Прадаць наш народ мы ня можам, а прадажай была-б наша згода на асадніцтва навет у найменшых разьмерах.

„Лішку зямлі на нашай тэтыторыі няма. Насыланьне каляністаў пры такіх абставінах роўназначна з засуджэньнем мясцовага ўкраінскага насяленьня на павольнае выміраньне.

„Украінскі народ ня можа зрачыся свайго права быць гаспадаром гэтае зямлі. Гэтага права ён нікому не аддасьць, а ўсіх, хто тамака гаспадарыць, лічыць часовымі акупантамі і адмаўляе ім права распараджацца гэтай зямлёй. Украінскі селянін пры першай нагодзе страшэнна памсьціцца на тых, хто пазбавіць яго зямлі, і гэтую зямлю адбярэ назад“.

# Абструкцыя.

Пасьля таго, як распачатая партыяй „Wyzwolénie“ абструкцыя ў Сойме была супакоена і „вызваленцы“, як гэта прадбачыла беларуская апазіцыйная прэса, за дробныя ўступкі згадзіўся падтрымаць законапраект аб парцэляцыі і асадніцтве, — у апазіцыі проці гэтага закону асталіся: абодва беларускія клюбы, украінцы, „Niezależna Partja Chłopska“ і камуністы, ды паадзінокія дэпутаты з нямецкага клюбу, які даў у гэтай справе сваім сябром поўную свабоду галасаваньня.

Калі выясьнілася, што ўсе папраўкі апазіцыі дружна адкідаюцца польскай большасьцяй, аб'яднаўшай і правых і левых ідэалёгаў асадніцтва на беларуска-украінскіх землях,—апазіцыя хапілася апошняга спосабу парляманцкай барацьбы: **абструкцыі**. Стуканьнем, сьвістам, пяяньнем, ігрой на музыкальных інструмэнтах, гудкамі і г. д. апазіцыя перашкаджала Сойму адбываць галасаваньне найбольш шкодных для беларускага і ўкраінскага сялянства артыкулаў.

На гэтым груньце 17 і 18 ліпня некалькі разоў былі сарваны паседжаньні Сойму. У часе аднаго паседжаньня паляк Марвэг кінуўся на беларускага дэпутата Тарашкевіча і ўдарыў яго, калі той, стануўшы на крэсьле, званіў вялікім званком. Некалькі другіх палякоў, пайшоўшых па сьлядох Марвэга, былі адбіты.

Прэзыдыум Сойму адказаў на абструкцыю карамі. Гэтак былі пакараны выдаленьнем на 1—2 засяданьні: 16 ліпня—12 дэпутатаў, 18—тоы.

З клюбу **Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады** выдалены на адно паседжаньне дэпутаты Валошын, Мятла і Тарашкевіч, ды Рак Міхайлоўскі запісаны ў пратакол.

**З Беларускага Пасольскага Клюбу** выдалены на адно засяд. дэп. Ярэміч.

**З Украінскага Клюбу** выдалены: Казіцкі, Макоўка і Підгірскі — на адно засяд. кожны, Паўло Васынчук—на два засяд.

З клюбу „Niezależna Partja Chłopska“ 2 дэпутаты выдалены на адно засяд. кожны і адзін — на два засяд., а з Нямецкага Клюбу — адзін дэпутат на адно засяданьне.

На паседжаньні 18 ліпня выдалены былі за абструкцыю з „N. P. Ch.“ адзін дэпутат на адно засяд. і адзін — на два, ды з Камуністычнае Пасольскае Фракцыі—адзін на два засяд.

Каб зразумець, якое значэньне мае выдаленьне ўсіх гэных дэпутатаў, трэба ведаць, што пасол, выдалены адзін раз, штрафуецца пазбаўленьнем яго паловы месячнае пэнсіі (значыць, на 460 зл.), а калі балей, дык усяе месячнае пэнсіі (920 зл.). Штраф пры запісаньні ў пратакол — 50 зл. Гэтак Беларускі Пасольскі Клюб заплаціў ужо 460 зл., а Клюб Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады—1.430 зл.

# Дыктатура міністра Зямельных рэформ на „Крэсах“.

Галава і правадыр „нашых“ крэсавых абшарнікаў трафна адзначыў у сваім віленскім органе „Słowo“, што ўрадавы законапраект уводзіць абсалютную ўладу, ці запраўдную „дыктатуру міністра Зямельных Рэформ“, на якога няма ніякай апэляцыі ў справе адабраных маёнткаў... Але з другога боку, гэткая-ж самая дыктатура міністра, толькі шмат больш шкодная, пануе і ў другой палове акцыі, прадугледжанай праектам.

Справа—у тым, што запраўды закон ня будзе абавязываць міністра абсалютна ні да чаго адносна надзяленьня зямлёй мясцовага насяленьня. Тут самадзяржаўна пануе „swobodne uznanie“ пана міністра Зямельных Рэформ... Паслухайце-ж, паночкі,—гэта-ж цікава, што найменш...

Арт. 12 быццам кажа і абязывае — пры парцэляцыі маёнтку і „сцаляньні грунтаў“ (пераход са шнуроў на хутары) суседніх вёсак — рабіць прырэзкі да „карлаватых“ (малазямельных) гаспадарак з **тых-жа** вёсак, — бо, здавалася-б, якраз у гэтым і ўвесь сэнс усей акцыі, прадугледжанай рэформай. „Міністар **можа**, кажа праект, прыватным ці іншым парцэлёўшчыкам паставіць такі варунак, **але зусім не абязаны** яго ставіць. **Міністар можа загадаць, як пабачым далей, нешта і зусім адваротнае!**

Арт. 37 кажа, што „часьць парцэляцыйнага абшару, пасьля надзяленьня парабкоў, будзе (значыць: **павінна быць**)—выкарыстана часткай на дапаўненьне „карлаватых“ гаспадарак суседніх вёсак, часткай на тварэньне новых самастойных гаспадарак“... Здаецца, ясна? Але зараз-жа пасьля гэтага йдзе: „Міністар, аднакжа, можа назначыць часьць (гэтага абшару) ці ўвесь парцэляваны абшар выключна на адну з гэтых мэтаў“. Гэта значыць: міністар, калі захоча, мае „права“—суседнім вёскам, дзе сяляне мо' сядзяць на дзесятых частках гэктара, **ня даць нічога**, а заместа прырэзак **нарабіць „новых самастойных гаспадарак“—якога-хоч тыпу**—па 15, ці па 25, ці навет па 45 гэктараў. — Для каго? Дык—ці-ж ня ясна, што для — „пасажыраў“ першых дзьвюх „клясаў“!.. І тут законапраект робіць толькі **адну адзіную** засьцярогу для пана міністра: з гэтага адабранага ад абшарніка, а адначасна вырванага ў мясцовага хлебароба, „парцэляванага абшару“ міністар ня мае права рабіць... больш як 20% „асадаў“ I клясы, гэта значыць—па 45 гэктараў... Але вось па 25 — дык хаця з усяго абшару!.. Для каго-ж?—Зразумела,— **для асаднікаў**.

Што гэта — запраўды так, аб гэтым кажа найвыразьней арт. 38. Гэты артыкул кажа: „Рада міністраў мае права „**ў вынятковых выпадках**“ (? дзе-ж межы гэтай „вынятковасьці“? дзе-ж граніцы гэтым „выпадкам“?!.)—па прапазіцыі міністра Зям. Рэф.—цэлы парцэляваны абшар маёнтку прадаць (як тонка кажа праект) „кандыдатам спасярод жыхараў паветаў ці гмінаў, асабліва пералюдненых, якія будуць вызначаны міністрам у кожным асобным выпадку“...

Не дасказана толькі выразна, што гэтыя „пералюдненыя паветы ці гміны“ для калянізацыі парцэляванага маёнтку, напрыклад, — у Наваградчыне, могуць быць з ваяводстваў — Кракаўскага, Пазнанскага ці Варшаўскага... Ці „рэформа“, маючая быццам мэтай „аздараўленьне зямельнага ладу“, у запраўднасьці **ператвараецца ў чыстае і выключнае, калі гэтага толькі захоча выканаўчая ўлада, асадніцтва — з выразнай, абапертай на „законе“ шкодай і крыўдай для мясцовага насяленьня**...

Але і гэта яшчэ далёка—ня ўсё.

Арт. 43 быццам зусім выразна кажа, што ўсе парабкі павінны атрымаць у першую чаргу дзялянкі, праўда, нязначныя,—бо па 6 гэктараў!— з парцэляванага маёнтку, дзе яны працавалі на ральлі.

Але і тут—нешта дзіўнае.

Перадусім несьцярпіма недарэчны і цынічны варунак для гэтага права: толькі тыя работніцкія сем'і атрымаюць дзялянкі ці адшкадаваньне, якія служылі стала і працавалі ў маёнтку „**ў апошнім годзе** перад парцэляцыяй“... Ці-ж ня ясна, які зьмест і сэнс мае гэты варунак ня толькі клясова, але і **нацыянальна**, а перад усім у нас на „Крэсах“? —Даволі толькі за год да парцэляцыі — бо ж абшарнік мае аж 2 гады сроку! — павыганяць усіх „нягодных“ работнікаў, напрыклад — беларусаў, і замяніць іх выпісанымі з „Крулеўства“ ці з „Кракаўшчыны“—„добрымі“, — і тады сьмела выконывай парцэляцыю: ані адзін загон „польскай“ зямлі не пападзе ў беларускія рукі!..

Ці-ж бы запраўды хто з беларускіх батракоў мог паверыць, што гэта пра яго і для яго пісаны такія пекныя рэчы, якія зьмяшчаюцца ў аддзеле 6 праекту—„Фінансавая (грашовая) дапамога набыўцам дзялянак з парцэляцыі“?..

Напрыклад, арт. 65 кажа, што „працаўнікі на ральлі (парабкі), набываючы дзялянкі на моцы арт. 43, маюць права на атрыманьне з фонду льготнага крэдыту і дапамогаў на будаваньне: а) беззваротнай падмогі ў суме 500 злотых на кожную гаспадарку, б) льготнага крэдыту гатоўкай да 2,500 злотых на гаспадарку. Але арт. 38 кажа яшчэ нешта больш дзіўнае: бо аказваецца, што сам... „міністар Зямельных Рэформ вызначае (асабіста?) набыўцаў з фальварачнай службы на варунках арт. 43...

Вось, якая важная дый небясьпечная для Польскай дзяржавы фігура — беларускі парабак з польскага крэсавага маёнтку, які можа часам, барані Бог, неяк фуксам атрымаць не для яго „пісаную“ ў міністэрскім праекце зямлю...— Дык сам пан Міністар Зямельных Рэформ Рэчыпаспалітай Польскай асабіста будзе выбіраць—„вызначаць“—, на падставе, відаць, падробязных „біяграфіяў“, ці „рэкамэндацыяў“адпаведных яўных і тайных „установаў“, якіх так многа на „Крэсах“—, якому з гэтых парабкоў—беларусаў можна „паверыць“ і даць 6 гэктараў „польскай зямлі“, а якому ня можна...

Але і гэта яшчэ ня ўсё, аб чым клапоціцца законапраект адносна тых-жа фальварачных парабкоў..

Спэцыяльны арт. 44 кажа, што „ў выпадках, калі гэтага будуць вымагаць гаспадарчыя варун-

Асабліва вострая абструкцыя разыгралася на апошнім паседжаньні Сойму—у панядзелак, 20 ліпня. Паўтарыўся ўвесь ранейшы канцэрт, толькі йшчэ больш гучна. Апазіцыя крычала: **„Зямля—бяз выкупу!“**

Маршалак дзеля гэтага выдумаў такі спосаб галасаваньня: лідэры польскіх клюбаў, ня прыймаўшых учасьця ў галасаваньні, сабраліся каля самага прэзыдыуму і, пад пякельны шум і крыкі апазіцыі, на мігі паказвалі сваім клюбам, ці яны павінны ўставаць, ці сядаць, галасуючы. Гэта была нейкая **карыкатура галасаваньня**: ведалі, за што галасуюць, толькі старшыні клюбаў, а **ўсе дэпутаты ня ведалі зусім, за што галасуюць**. І гэткае „галасаваньне“ вёў **польскі „сацыяліст“ (П.П.С.) віцэ-маршалак Морачэвскі!**

За абструкцыю ізкоў былі пакараны некалькі дэпутатаў. **Дэп. Тарашкевіч быў выключаны на 3 засяданьні**, адзін з паслоў Н. П. Х.—на два. Гэтак дэп. Тарашкевіч аштрафаваны на ўсю сваю месячную пэнсію.

У часе перарыву, **калі выдаленыя дэпутаты адмовіліся выйсьці з салі, туды ўвайшла соймавая варта і павыносіла іх сілай—на руках.**

У такіх абставінах польскі Сойм спарадзіў „Зямельную рэформу“, якой перачыркнуў стары, але ня зьдзейсьнены закон аб зямельнай рэформе, выданы пяць гадоў назад Устаноўчым Соймам...

Цяпер дэпутаты разьедуцца на „заслужоны“ адпачынак да 29 верасьня.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Катастрофа мінаносца ў Гданскім порце.

20/VII у Гданскім порце стаўся ўзрыў катла на адным з найлепшых польскіх мінаносцаў „Кашуб“. Мінаносец пайшоў на дно. Выбух быў такі моцны, што забіты 3 матросы і некалькі цяжка ранена.

Катастрофа сталася так хутка, што нікога з польскіх матросаў не ўдалося выратаваць: усе ўтанулі.

Думаюць, што гэта быў замах тэрарыстаў.

### Бітва паміж камуністамі і паліцыяй у Варшаве.

7/VII у Варшаве два агенты сьледчай паліцыі ўбачылі тры западозраныя асобы, якія аказаліся камуністамі і патрэбавалі ад іх дакуманты.

Тыя-ж не дакуманты паказалі, а дасталі рэвальвэры і пачалі страляць у гэтых агентаў, а пасьля кінуліся ўцякаць.

Рушыла за імі паліцыя — і конная і пешая. На вуліцах адбылася пагоня з стралянінай з абодвух бакоў.

Камуністы цяжка ранены і злоўлены. Сьледчы паліцыянт, які трэбаваў дакуманты, сьмяротна ранены. Забіты нейкі студэнт, які кінуўся памагаць паліцыі. Агулам ранена 17 асоб.

Як выясьнілася, камуністы меліся забіць агента палітычнае паліцыі, які спачатку быў у камуністычнай партыі, а пасьля перайшоў у сышчыкі.

### Арышты сярод камуністаў у Варшаве.

Уначы з 19-га на 20-га палітычная паліцыя арыштавала каля 20 камуністаў.

Арышты гэтыя стаяць у лучнасьці з меўшымся адбыцца камуністычным вечам, да якога не дапусьцілі.

### Навакол афэры Іліціча.

Ходзяць чуткі, што вайсковая ўлада арыштавала тры асобы, супрацоўнікаў Іліціча, якія мелі па сваей службе сутычнасьць з арміяй.

„Савецкая Беларусь“ разглядае справу Іліціча і арышт пар. Рондоманскага і кажа, што пар. Рондоманскі мае перайсьці ў распараджэньне Наркаміндела. Гэта значыць, што бальшавікі будуць трэбаваць замены Іліціча на пар. Рондоманскага.

### Стрыманьне сельска-гаспадарчай забастоўкі.

Пэпэсы здалі яшчэ раз экзамен на званьне „дзяржаўнай партыі“—коштам работніцкай клясы.

Як ведама, з пачаткам жніва павінна была распачацца агульная забастоўка сельска-гаспадарчых работнікаў у-ва ўсей Заходняй Польшчы, бо абшарнікі навет і слухаць не хацелі ні аб якіх паляпшэньнях быту і павялічэньні платы сваіх парабкаў—разьлічваючы на тое, што іх уласны ўрад—„дзеля дзяржаўнага інтарэсу“—здалее раздавіць „шкодную для краю акцыю сацыялістаў і камуністаў“.

І вось у апошні мамэнт аказаліся непатрэбнымі ніякія рашучыя меры ўраду братоў Грабскіх: забастоўку, маючую мэтай зламаць апор абшарнікаў і палепшыць быт работнікаў, зламалі самі „правадыры работнікаў“—пэпэсы... Забастоўкі ня будзе, усе падрыхтаваньні да яе стрыманы і спынены.

Што ж далі пэпэсы работнікам за іх адмову выкарыстаць найцяжэйшы для ворага мамэнт барацьбы?

Калі праўду сказаць, дык—нічога! Пэпэсы дабіліся толькі таго, што іх міністар Працы ў урадзе братоў Грабскіх (п. Сокаль) дабіўся ад абшарнікаў згоды на стварэньне новай „разьемчай камісіі“, якая мае „зьліквідаваць канфлікт“... І вось толькі за гэтае „правадыры“ выбілі самі з рук работнікаў найлепшае аружжа ў найвыгаднейшы для работнікаў мамэнт барацьбы...

А што значыць і чаго варта гэтая „другая разьемчая камісія“, найляпей, мусіць, ведаюць самі пэпэсы: бо пасьля і якраз з прычыны пастановы гэткай самай першай „камісіі“ і выбухла, па ініцыятыве самой ППС, вясеньняя забастоўка работнікаў на ральлі...

Дык адно з трох: або зьмяніўся ўрад, або зьмяніліся грунтоўна абшарніцкія душы, або... зьмяніліся навет ад вясны самі пэпэсы — у бок яшчэ вялікшай „дзяржаўнасьці“—коштам інтарэсаў панскіх рабоў — сельска-гаспадарскіх парабкоў.

### Эканамічная вайна Польшчы з Нямеччынай.

Эканамічная вайна Польшчы з Нямеччынай зацягіваецца, усё больш завастраючыся. Пачуўшы сілу Нямеччыны, Польскі ўрад згаджаецца ўжо быццам даць Нямеччыне ў Польшчы тыя самыя targовыя варункі—„найбольшай карыснасьці“, якімі карыстаюцца ў Польшчы яе вэрсальскія дабрадзеі і саюзьнікі, дамагаючыся толькі, каб Нямеччына пусьціла да сябе 350 міл. тоннаў польскага вугальля, ды скаціну й мяса без абмежаваньня. Але на гэта Нямеччына адказала рашучай адмовай. Вугальля яна гатова пусьціць толькі 100 міл. тоннаў, а скаціны і мяса — гэтулькі, каб гэта не перашкаджала разьвіцьцю краёвай гадоўлі жывёлы. А з свайго боку Нямеччына згаджаецца заключыць новы торговы дагавор з Польшчай, ставячы яшчэ шмат цяжкіх для апошняй варункаў... Відаць, Нямеччына хоча паказаць добра сваю сілу Польшчы.

П. Грабскі адважна прыняў вызаў і забараніў раз за разам цэлы рад новых тавараў, якія вязьлі з Нямеччыны. Праўда, гэтым ён трохі б'е нямецкіх фабрыкантаў, але—яшчэ больш б'е польскага спажыўца, які будзе пераплачваць за краёвы, але горшы тавар вялікшую цану.

# Як не спаўняюцца „языковыя законы“.

**Інтэрпэляцыя беларускіх паслоў да п. старшыні Рады Міністраў у справе нарушэньня п. міністрам рэлігійных вызнаньняў і публічнае асьветы ўставу з 31.VII. 1924 г. аб мове ўрадаваньня ўрадавых і самаўрадавых уладаў і ў справе замаху на беларускую гімназію.**

Устаў з 31 ліпня 1924 году забясьпечывае беларусам права ўжываньня роднае мовы ў паданьнях і карэспандэнцыі з дзяржаўнымі ўладамі.

Тымчасам п. міністар рэл. вызн. і публ. асьветы пазволіў сабе зламаць устаў і патрэбаваць ад прыватных беларускіх гімназіяў, якія не дастаюць ад дзяржавы ніякае дапамогі, каб у карэспандэнцыі з дзяржаўнымі ўрадамі карысталіся выключна польскай мовай.

Гэтак віленскае кураторыум паведаміла беларускую гімназію ў Вільні, што міністэрства вызн. рэл. і публ. асьв. пісьмом з 26. V. 1925 г. пад № 1119/24 выясьніла, што дырэкцыя гімназіі павінна вясьці перапіску з урадамі толькі ў польскай мове. І дзеля гэтага кураторыум загадывае—ад часу атрыманьня гэтага паведамленьня—точна выпаўняць яго.

Апрача таго, міністэрства в. р. і п. а. распачала крокі дзеля ператварэньня беларускіх гімназіяў у польскія. Ідучы вось у гэтым кірунку, віленскае кураторыум паведаміла беларускую гімназію ў Вільні, што, згодна з выясьненьнем міністэрства в. р. і п. а. з 26. VI. 1925 г. пад № 4022, школы з няпольскай выкладовай мовай абязаны вясьці навуку агульнае гісторыі і агульнае геаграфіі ў польскай мове.

Гэтыя два факты сьведчаць аб нарушэньні п. міністрам р. в. і п. асьветы ўставу аб мове ўрадаваньня і аб нарушэньні канстытуцыі, забясьпечываючай навучаньне дзяцей у беларускіх гімназіях у роднай мове. Калі п. міністар дазваляе сабе ламаць законы, выданыя з яго-ж уласнае ініцыятывы, дык што-ж павінны рабіць падлягаючыя яму выпаўніцелі законаў і загадаў? Дык нічога дзіўнага, што ў Польшчы дагэтуль пануе хаос і безадказнасьць адміністрацыі за ўчынкі, што ламаюць правы беларусаў у Польшчы.

Дзеля вышэйсказанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. старшыні Рады Міністраў:

1) Ці маніцца запрапанаваць падацца ў адстаўку міністру Ст. Грабскаму, які дазволіў сабе нарушыць закон з 31. VII. 1924 у справе мовы ўрадаваньня?

2) Ці маніцца ўзяць назад загад міністра р. в. і п. а., нязгодны з законамі, канстытуцыяй і вэрсальскім трактатам?

Варшава, 17 ліпня 1925 г.

кі (!?), Міністар Зям. Рэф. можа, паводле „swobodnego uznania“ (!), загадаць, каб фальварчная служба, якая ў рэзультаце парцэляцыі — губляе працу, атрымала зямельныя дзялянкі ў **іншых** маёнтках, а ня ў тых, дзе яна працавала“... А тыя дзялянкі, на якія яна, гэтая служба, быццам мела права, як мясцовае насяленьне, той жа арт. перадае „у распараджэньне Міністра Зям. Рэф.“...

Напрыклад, парцэлюецца маёнтак... расейца ці краёўца-паляка, які ўпорна ня хоча выпісываць з „Галілеі“ батракоў“... Дык вось тут якраз і падасьпеў сам асабіста пан Міністар Зямельных Рэформ, які і „загадывае“ работнікам-беларусам ехаць „на дзялянкі па 6 гэкт.“ на Памор'е, а ўсе работніцкія „вакансіі“ ў маёнтку аддаць яму—дзеля яго асабістага распараджэньня,—„swobodnae uznanie“,—каму ён сам асабіста захоча даць.

Вачамі і рукамі міністра-дыктатара на мясцох зьяўляюцца Павятовыя і Акружныя Зямельныя Урады, якія і рашаюць безапэляцыйна разам з міністрам аб кожным бяз вынятку „кандыдаце“ на найменшы шматок зямлі, які мае выйсьці з рук польскага, ці якога іншага абшарніка на „Крэсах“... У-ва што пераробіцца гэткая „зямельная рэформа“, запраўды-ж маючая выключна **паліцэйскі-нацыяналістычны** характэр і зьмест, — лёгка зразумець кожнаму...

Палітычна ці паліцэйска-нацыяналістычны, а не гаспадарчы характар усей „зямельнай рэформы“ асабліва і зусім выразна падчырківаецца двума спэцыяльнымі артыкуламі: 41 і 42, — з якіх першы кажа аб тым, хто пры ўсіх сваіх гаспадарчых здольнасьцях згары ўжо **ня можа** мець ніякіх правоў на атрыманьне ані шматка зямлі ў Польшчы, перад усім-жа на „Крэсах“, другі, наадварот, кажа аб тым, хто, навет ня маючы ніякіх здольнасьцяў ані веды ў галіне сельскай гаспадаркі, **мае ўсе прывілеі і пяршынства** на атрыманьне з рук пана Міністра зямлі ў Польшчы, а перад усім—на „Крэсах“, дый навет — ня ніжэй як па 2-ой, а то дык і па 1-ай клясе.

Перад усім атрымаць зямлю, паводле „рэформы“, можа толькі „абыватэль польскі“. Ізноў — зусім зразумела і нармальна, але толькі—у нармальным гаспадарстве!.. Што значыць на нашых „Крэсах“ атрымаць польскае абыватэльства, ня ведаюць добра ў Жэнэве, а мо' і ў Варшаве, але ведаюць добра на „Крэсах“. Як хутка робяцца ў нас „абыватэлі“ і наадварот, мо' яшчэ хутчэй, „варочаюцца назад“—у пачатны „обцокраёўскі“ стан, ведае кожны, хто атрымаў пашпарт: сёньня ты „обыватэль“, але спрабуй толькі канкураваць на зямлю з „упрывілеяваным“ палякам, глядзіш — ты ўжо „обцокраёвец“. А сколькі ў нас цэлых вёсак, якія „ня прызнаны“ абыватэлямі, — дык і ня маюць права ня зямлю?!

Але „ад набыцьця зямлі выключаюцца яшчэ ўсе, караныя за праступленьні проці Польскай Дзяржавы, усе, караныя за дэзэртырства з польскай арміі, тыя, што гвалтам самі забіралі чужыя маёнткі ў валаданьне“.

Закон уводзіць новае, не прадугледжанае судовым прысудам, абмежаваньне правоў, уводзіць **і новую кару** для тых ужо раз пакараных судом грамадзян, якія якраз могуць быць дрэннымі жаўнерамі (дык і дэзэртыравалі) ці наагул нарушылі закон — можа, якраз праз зямельны голад, або, можа, зрабілі „палітычнае праступленьне“, якраз дамагаючыся зямлі, вядучы барацьбу за тую самую „зямельную рэформу“, якую цяпер толькі нібы-то робіць урад.

Але ўсе гэтыя **былыя** праступнікі цяпер могуць быць добрымі, паправіўшыміся ўжо грамадзянамі, а перад усім—добрымі сельскімі гаспадарамі. Дык вось, — не: **паліцэйскае пачуцьцё помсты** перашкаджаець законадаўцу выкарыстаць **гаспадарчую вартасьць** і энэргію гэтых людзей. Усё-ж менш астанецца канкурэнтаў для наступнай упрывілеяванай катэгорыі,—вось, запраўдны матыў гэтых абмежаваньняў..

Вышэй паданае абмежаваньне, як кожны зразумее, перад усім скіравана проці насяленьня „Крэсаў“, бо дзе-ж—запраўды ўсімі мерамі і спосабамі „робіцца“ з мірных людзей больш „дзяржаўных праступнікаў“, як ня там, як не сярод беларускага ці ўкраінскага насяленьня „Крэсаў“.

Затое, як мы сказалі, ёсьць цэлыя катэгорыі **нацыянальна-палітычна** ўпрывілеяваных, але **гаспадарча**, можа, зусім нічога ня вартых „кандыдатаў“ на зямлю, якія маюць права атрымаць яе ў першую чаргу,—ізноў, зразумела, перад усім на нашых многапакутных „Крэсах“.

Арт. 42 кажа, што „ў першую чаргу павінны быць прыняты пад увагу... інваліды (!) польскай арміі,—войск б. „Сярэдняй Літвы і — верхня-сілескіх паўстаньняў, якія атрымалі баявыя адзнакі а таксама — сем'і (ўдовы і сіроты), пакінутыя імі“.

Тыя агаворкі аб „роўных кваліфікацыях“, да якіх вышэйуказаныя азнакі павінны быццам служыць толькі дадаткавым плюсам, у нас, на „Крэсах“ будуць мець толькі „жэнеўска-пляtанічнае значэньне,—бо ці-ж можа наагул „антыпаньствовы“ беларускі-хлебароб, калі-б нават запісаўся да самага „Пяста“, канкураваць калі з „гурна-сьлёнскім паўстанцам“, ці з тым паляком-інвалідам войск польскіх, які якраз усе свае раны мо' атрымаў у вайне з гэтымі самымі—беларускімі „хамамі“ ці ўкраінскім „гайдамакамі“, бароначы проці іх польскія абшарніцкія маёнткі? — на яго карысьць... Гэта-ж супярэчыла-б ня толькі „гістарычным заданьням“, але і „здаровай польскай лёгіцы“... як гучна выразілася адна з польскіх газэт...

Дык вось — дыктатура міністра „зямельных рэформ“ і мае праводзіць і ажыцяўляць гэтыя „гістарычныя“ — нацыяналістычна-паліцэйскія заданьні Польшчы на „Крэсах“...

„Гістарычныя“, гэта-ж значыць—ужо больш як паўтара веку пахаваныя гісторыяй...

І гэта—ў той мамэнт, як на нашых вачох робіцца запраўдная жывая і неперамажная гісторыя—**арганічная тканіна** сучаснасьці...—Калі ідзе на блудны і крывадушны сьвет захапіўшых уладу карлаў-эксплёататараў—запраўдная дыктатура працоўных масаў народу...

# Заграніцай.

### Цікавая вестка.

Амэрыканкае агенцтва перадае сэнсацыйную, але, можа, маючую падставы вестку — аб тым, што былы ад'ютант нямецкага крон-прынца меў гутарку з самым маршалкам Фошам. Аб чым-жа гутарылі гэтыя заклятыя ворагі, з якіх першы, зразумела, выступаў не ад свайго-ж нічога ня вартага імя. Размова йшла аб тым, каб наладзіць француска-нямецкую ваенную коаліцыю (супрацоўніцтва) дзеля аружнага выступленьня проці СССР. Францыя, зразумела, мае згадзіцца на адбудову ў Нямеччыне манархіі, а за гэта апошняя, ужо адбудаваўшыся, мае звольніць Эўропу ад „бальшавіцкай заразы".

### Канфэрэнцыя Чэмбэрлена з Ракоўскім.

У Лёндане адбылася канфэрэнцыя Чэмбэрлена з прадстаўніком СССР, Ракоўскім. Апошні высказаў здаваленьне вынікамі канфэрэнцыі.

### Шпіёнская арганізацыя ў Бэсарабіі.

Румынскія газэты пішуць, што ў Бэсарабіі раскрыта вялікая шпіёнская арганізацыя, ахопліваўшая ўвесь край. Арыштавана дагэтуль 45 асобаў. Шанцуе-ж наагул на „шпіёнскія арганізацыі" ўсім тым гвалтам захопленым краём, дзе „леяльнымі" зьяўляюцца толькі чужаземныя паліцыянты і жаўнеры.

### Канфэрэнцыя ангпійскіх забастоўшчыкаў з прамыслоўцамі.

Бастуючыя ангпійскія вуглякопы выслалі дэлегатаў дзеля перагавораў з прамыслоўцамі аб зьліквіданьні крызісу. З боку работнікаў — 200 дэлегатаў ад 800.000 арганізаваных вуглякопаў. Работнікі, апрача эканамічных дамаганьняў, выставілі трэбаваньне нацыяналізацыі ўсіх вугальных шахтаў краю.

### Новыя крэйсэры ў Англіі.

Англійскі ўрад пастанавіў пабудаваць у працягу бліжэйшых 5 гадоў 19 новых крэйсэраў (шыбкаходных ваенных караблёў).

### Урадавы крызіс у Партугаліі.

Партугальскі парлямант большасьцю галасоў выразіў недаверые ўраду. Але Сэнат зрабіў якраз наадварот. Тады прэм'ер запрапанаваў прэзыдэнту распусьціць парлямант.

### Вайна ў Марокко.

Вайна ў Марокко зацягваецца, ня гледзячы на „рашучыя меры", прынятыя Францыяй у паразуменьні з Гішпаніяй.

„Мірныя прапазіцыі" Францыі і Гішпаніі „згаджаліся" даць Абд'эль Крыму і рыфэнам „аўтаномію", ці навет „незалежнасьць".. пад „пратэктаратам" Францыі ці Гішпаніі, калі-б ён зараз-жа разаружыўся, выдаў аружжа Францыі, а перад усім... не бунтаваў больш іншых плямёнаў, астаўшыхся „вернымі" Францыі і Гішпаніі, ды адмовіўся ад незаконна прысвоенай ім улады над усімі тымі плямёнамі, якія прызналі яго ўладу і ўвайшлі ў склад яго арміі. Тады Францыя і Гішпанія зробяць Абд'эль Крыму чэсьць — прызнаюць яго правадыром, ці навет каралём рыфэнаў і „словам гонару" гарантуюць яму „незалежнасьць".

Дзіва, што на гэткія „варункі міру" пабеданосны дагэтуль, агульна і ўсюды прызнаны правадыр усіх марокскіх арабаў, паўстаўшых проці чужынцаў, папросту начхаў. Абд'эль Крым адказаў на гэтыя прапазіцыі вялікім наступленьнем. Яго войскі занялі вялікі кавалак важнай стратэгічнай чыгункавай лініі ў Фэц і сталі ўжо пагражаць гэтай сталіцы Францускага Марокко.

Францыя, толькі што заявіўшая вуснамі прэм'ера, што лёгка і хутка закончыць вайну, змушана пасылаць у Марокко ўсё больш войска, траціць на яе ўсё большыя сумы.

Толькі што была выслана з акупаванай часьці Нямеччыны марокская дывізія, якая аказалася капляй у моры... Трэба ізноў слаць войска, і ня то што дывізіі, але—цэлыя корпусы. У Марокко будуць высланы аж 2 найлепшыя новыя корпусы, прытым — чыста францускія, бо тыя мешаныя, напалову зложаныя з чужынцаў, напалову — з мясцовых „верных" арабаў войскі аказаліся зусім няпэўнымі.

Апрача гэтага, францускі ўрад зьмяняе за апошні кароткі час аж трэцяга галоўнакамандуючага ў Марокко. Толькі што быў назначаны на месца маршала Ліотэя ген. Нулян, які, едучы на фронт, трубіў на ўвесь сьвет, як ён хутка сагне ў барані рог непаслушнага Абд'эль Крыма. Але вось, толькі што ён пасьпеў даехаць, як францускі ўрад шле на яго месца ўжо новага галоўнага камандзіра—самога маршала Пэтэна, разам яшчэ з двума слаўнымі француск. генераламі.

Усё гэта паказвае ясна і бясспрэчна, што справа француская ў Марокко стаіць дрэнна, што „перамога" над паўстаньнем, навет калі яна супольнымі сіламі некалі і здарыцца, — справа вельмі далёкага часу...

Цікава адзначыць, што на прапазіцыю Францыі і Гішпаніі—прыняць учасьце ў супольнай акцыі, прынамся ў блякадзе афрыканскіх берагоў, каб спыніць дастаўку паўстанцам аружжа,—Англія адказала рашучай адмовай: з гэтага ясна, што аружжа Абд'эль Крыму дастаўляюць... толькі Нямеччына і СССР!..

### Міжнародавая канфэрэнцыя ў кітайскай справе.

Амэрыканскі ўрад, пад націскам сваіх работніцкіх арганізацыяў, запрапанаваў склікаць агульную канфэрэнцыю заінтэрэсаваных дзяржаваў—у справе кітайскіх падзеяў.

Амэрыканскія праф. саюзы рашуча высказаліся проці недарэчных прывілеяў чужынцаў у Кітаі.

Але англійскі ўрад быццам проці гэткай канфэрэнцыі, жадаючы ляпей самастойна выступаць у Кітаі.

Японскі міністар таксама заявіў, што канфэрэнцыя, хоць і ня шкодна, але і непатрэбна.

# ХРОНІКА.

**З Беларускага Навуковага Таварыства.** У працягу лета блізу кожную нядзелю адбываюцца экскурсіі ў музэй ім. Ів. Луцкевіча. У апошнюю нядзелю музэй аглядалі курсанты-беларусы ўрадавых вучыцельскіх курсаў.

Урад Т-ва высказывае сваю падзяку асобам, прыслаўшым у музэй ахвяры рэчамі: 1) дэп. кс. Адаму Станкевічу — за друкі з часоў рэвалюцыі ў Расеі; 2) дэп. Раку-Міхайлоўскаму за дакумэнты; 3) адв. П. Андрэеву — за мэдаль сельска-гаспадарскае выстаўкі; 4) грам. Р. Земкевічу—за 2 кнігі; 5) рэд. Пачопцы — за часопісь „Праваслаўны Беларус" і дакумэнт; 6) грам. Аўгеню Жуклевічу (з Дзісьненшчыны) — за 6 манэт; 7) грам. Аляксею Мацейчыку (в. Рудаўляны, Горадзенскага пав.)—за 1 манэту.

**Акт абвінавачаньня кс. Гадлеўскаму.** Віл. газ. „Słowo" паведамляе, што кс. Гадлеўскі ў працягу гэтага тыдня атрымае акт абвінавачаньня. Справа яго будзе разглядацца ў жніўні. Бароняць яго рад віленскіх адвакатаў.

**Запячатаньне царквы.** 17/VII урадовец камісарыяту ўраду на м. Вільню і сьв. Сасноўскі (з даручэньня Віленскай кансысторыі) запячаталі царкву сьв. Кацярыны на Зьвярынцы за тое, што там малілася група староньнікаў сэнат. Багдановіча, адмовіўшыхся прызнаваць аўтакефальнае польскае праваславіе.

**Камуністычныя адозвы.** „Dzien. Wil." падае, што ўначы з 17/VII на 18/VII на вуліцах: Сьв. Юрскім прасьпекце, Канарскага, Рыдза - Сьміглага, на Глухім заулку, на Пясках, на Антокальскім рынку і на чыгунцы каля Вільні былі раскінуты камуністычныя адозвы, пісаныя пабеларуску, папольску і парускy.

**Пан страляе ў сялян.** Неяк ня вельмі даўно ў газэтах зьявілася глухая вестка аб забойстве селяніна абшарнікам Сальмоновічам у двары Падзісьне, Браслаўскага пав.—Цяпер літоўская прэса кідае крыху сьвятла на гэтае здарэньне. Аказваецца, што між гэтым панам і сялянамі йшчэ да вайны йшоў суд аб сэрвітутнае пасьвішча. Сяляне, стоючы на сваім, пасьлі сваю скаціну на спорнай зямлі і цяпер. На гэтым груньце і разыгралася крывавая драма: абшарнік застрэліў аднаго селяніна, што пасьвіў коні, на сьмерць, а другога цяжка зраніў.

Спачатку абшарнік быццам-то тлумачыў свой паступак тым, што на яго сяляне напалі ў лесе ўначы, і ён толькі бараніўся. Але паказаньні яго аказаліся непадобнымі да праўды, і справа пайшла на судовы шлях. Абшарніка заарыштавалі і адправілі ў віленскі вастрог на Лукішкі.

Чым справа скончыцца, няведама, але жыцьця забітаму селяніну і кармільца ягонай сям'і ніхто ня верне!..

**Якіх ксяндзоў узгадоўваюць у віленскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі?** Пасьля скандальных выпадкаў з крывавымі ахвярамі ў польскай гімназіі ім. Лелевэля ў Вільні маем новы факт маральнага раскладу ў сучасных польскіх школах—датаго ў духоўных. Як падае „Życie Ludu", клерык віленскае катал. дух. сэмінарыі, Пётра Станкевіч, забіў сякерай на сьмерць у засьц. Карольнішкі, Немэнчынскае гміны (пад Вільняй), свайго бацьку і мачыху, ды цяжка параніў 10-гадовую сястру, а пасьля ўцёк. Успомненая газэта адзначае, што ў сэмінарыі найвялікшую ўвагу звараЧаюць на тое, каб узгадоўваць добрых польскіх патрыотаў, затое на агульна-людзкае ўзгадаваньне не глядзяць,—дык вось і вынікі гэткае сыстэмы!

**З літоўскага жыцьця.** Дамаганьне міністэрства, каб у няпольскіх гімназіях навука агульнае гісторыі і агульнае геаграфіі адбывалася ў польскай мове, адносіцца ў роўнай меры як да беларусаў, так і да літоўскіх і жыдоўскіх гімназіяў, выклікаючы агульнае абурэньне. У сувязі з гэтым, а також ў сувязі з праектаваным вызначэньнем польскага ўладаю спэцыяльных матуральных экзаменацыйных камісіяў для літоўскае гімназіі (таксама, як і для беларускае), газэта „Życie Ludu" раўнуе палажэньне літоўскае гімназіі пад Польшчай і польскіх—пад Літвой.

Аказваецца, што ў Коўне здаўна вядзецца так, што літоўская школьная ўлада пасылае на матуральныя экзамены ў польскай гімназіі аднаго толькі свайго дэлегата, а экзаменуюць самі польскія вучыцялі ў яго прысутнасьці. А навука агульнае гісторыі і агульнае геаграфіі адбываецца ў польскіх гімназіях у Літве—папольску...

Прыраўнаваньне выходзіць не на карысьць польскае „свабоды"!

**Перанос Навагрудзкага ваяводзтва.** Палітычны камітэт рады міністраў пастанавіў перанесьці Навагрудзкае ваяводзтва з Навагрудку ў Слонім.

# Карэспандэнцыі.

### Вырадак.

*(М-ка Мілейчыцы, Бельскага пав.).*

Спаганяюць з нас непасільныя падаткі—гэта рэч усюды ведамая; не заплаціў падатку — забралі апошні кажух з плечаў, апошні плуг, або, калі чалавек меў, дык і апошняга каня, і прадаюць за бясцэнак з малатка—гэта ў нас на Беларусі пад Польшчай—рэч натуральная.

Але ў нас-жа, у Мілейчыцкай гм., здарыўся факт, ня толькі дзікі, але й ненатуральны: здарылася тое, што можна назваць вырадзтвам.

У нашай гміне за незаплачаныя падаткі забралі ў сялян—беларусаў самыя неабходныя рэчы і прадавалі „з малатка".

Купляюць гэтыя рэчы польскія ўрадоўцы — гэта ня дзіва.

Але вось, знайшоўся ў нас беларус—вырадак, Ян Дземяновіч, які, дзякуючы „вялікаму" свайму розуму, купляў гэткія рэчы. Колькі сьлёз, колькі нараканьняў было—не апісаць!..

Расейская прыказка кажа: „В семье не без урода", але гэтакіх вырадкаў не павінна быць.

Ды й падумай, браце: заўтра ў цябе могуць забраць тваё апошняе за падаткі, і ці прыемна тады табе будзе глядзець, як тваім дабром хтосьці будзе нажывацца? Апамятайся, блудны сыне! **Сакол.**

# Беларусы у Латвіі.

### Летнія вучыцельскія курсы.

Пры Дзьвінскай Беларускай Гімназіі з 4-га чэрвеня адчыніліся і працуюць летнія беларускія вучыцельскія агульнаадукацыйныя курсы для тых вучыцялёў, што маюць права працаваць у беларускай школе I ступені, але жадаюць набыць права выкладаньня і ў школах II ступені (5 і 6 клясы пачаткавае школы).

Слухае курсы 20 вучыцялёў.

### Трэці выпуск Дзьвінскае Белар. Гімназіі.

У Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі вучэбныя заняткі скончыліся 30-га чэрвеня.

Апошнюю клясу скончыла 8 чалавек; з іх 7 атрымліваюць атэстаты сьпеласьці, а 8 му выдаецца пасьведчаньне аб сканчэньні сярэдняе школы. Атэстаты выдадзены: Л. Аўгусьціновічу, А. Антаневічу, І. Карнавухаму, В. Капылову, П. Пырсікаву, Э. Рэгут, А. Фёдаравай, а Р. Альстэр выдаецца пасьведчаньне.

Мінулы год для гімназіі прайшоў у цяжкіх варунках, дзякуючы зьмене ў кіраўніцтве гімназіяй і страце выдатных пэдагагічных сілаў — Я. І. Краскоўскага і П. В. Мядзёлка-Грыб.

### Першы выпуск Люцынскае Беларускае Гімназіі.

У гэтым годзе Дзяржаўная Люцынская Беларуская Гімназія зрабіла першы выпуск сваіх абітурыентаў. Заняткі скончыліся 30-га травеня, а выпускныя экзамены 19-га чэрвеня. 28-га чэрвеня адбыўся ўрачысты акт. Атэстаты выдадзены гэткім асобам: Яну Кудраўцаву, Антону Лейтану, Антону Лапаценку, Язэпу Мяжэцкаму, Якубу Воркулю і Кацярыне Зейгліш.

### Беларускасьць і ксяндзы.

„Голас Беларуса", які выходзе ў Рызе, панурымі фарбамі малюе барацьбу польскіх і маскоўскіх нацыяналістаў з беларускім рухам у Латвіі. Як прыклад адносінаў ксяндзоў-палякоў да беларусаў, газэта падае гэткі характэрны факт.

„Спалоўшчык ксяндза Табурэ, К. Пархвен пасылаў вучыцца сваіх двух дзяцей у Пустынскую беларускую пачатковую школу. Гэта вельмі не падабалася ксянду і ён увесь час намаўляў бацькоў і дзяцей, каб яны хадзілі не ў беларускую школу, а ў польскую, але бацькі і дзеці на гэта не згадзіліся.

„Раз, а гэта было ў восені 1924 г., убачыў ксёндз, што яго жывёла, якую пасьвілі тыя-ж вучні, зайшла ў ягоную ярыну. Схапіўшы рэвальвэр, ён пабег да іх і, злавіўшы аднаго з хлапцоў, пацягнуў яго да хаты і грозючы адмовіць зямлю, патрэбаваў ад старшых братоў кары хлапцу.

Баючыся, каб ня страціць кавалак хлеба, браты пабілі свайго брата, але пабілі так, што на палову жывога яго ўнясьлі ў хату.

„Здаволены сваёй помстай, ксёндз Табурэ з салодкай мінай аблаяў яшчэ раз хлопчыка „камуністам" (так ён звычайна заве беларусаў) і пайшоў дахаты".

Аднак, і сярод каталіцкіх ксяндоў у Латвіі пачынае будзіцца нацыянальная сьвядомасьць. Аб гэтым кажа вестка, паданая тэй-жа газэтай:

„11./VI. на „Божае Цела" ў Бальбіноўскім касьцеле было сказана казаньне Друйскім ксяндзом у беларускай мове, якое дужа зацікавіла жыхарства. Казаньне цягнулася 3 гадзіны і з вялікай паважнасьцю слухалася парахвіянамі".



Выдавец: Барыс Леванчук.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.